# НАША СВАБОДА

№27(114) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

7 САКАВІКА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




*Дарагія нашы жанчыны!*

*Шчыра віншуем усіх вас з радасным днём 8 сакавіка і ад сэрца зычым, каб споўніліся вашыя мары, каб вашае жыццё было доўгім, а пачуцці – толькі радасныя. Надзейных вам мужоў, удзячных дзяцей і адданых сяброў! Шчасця і ўдачы!*

*Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ*



## Прысуд Юліі Чыгір

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Мінскі гарадскі суд пакінуў без зменаў прысуд Юліі Чыгір у выглядзе двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на адзін год. Суд адмовіўся перагледзець відэакасету падзеяў 19 траўня 2000 года, падчас якіх Юлія Чыгір быццам бы нанесла траўму міліцыянту Амельчанку. Не пажадаў суд таксама праслухоўваць аўдыёзапіс працэсу ў Фрунзенскім судзе, які прызнаў Ю.Чыгір вінаватай. Жонка экс-прэм'ера заявіла пасля вынясення рашэння, што яно дэманструе адсутнасць справядлівасці і палітычную матывіроўку пераследу ее і ўсёй сям'і Чыгіроў. ■

## Абвяржэнне

21 лютага НАША СВАБОДА змясціла інфармацыю, што ўлады Крычава даслалі зварот да кіраўніцтва Смаленскай вобласці прыняць захады па спыненні там друку крычаўскай незалежнай газеты «Вольны горад», «бо яна ачарняе братнюю інтэграцыю славянскіх народаў». На гэтую інфармацыю адрэагаваў Крычаўскі раённы выканаўчы камітэт, нязгодны ліст якога мы публікуем без скарачэнняў.

*«В № 21 от 21 февраля 2001 года в Вашем издании напечатана статья о якобы организованном и незаконном преследовании негосударственного издания «Вольны горад» со стороны райисполкома. Ставим Вас в известность, что документ, на который Вы ссылаетесь, явно вымышленный. Такой документ не числится в журнале учета исходящей документации райисполкома и входящей документации аппарата Главы Администрации Смоленской области. Кроме того отсутствует уголовное дело.*

*Если не будет опубликовано опровержение, то в соответствии со статьями 36 и 37 Закона Республики Беларусь «О печати и других средствах массовой информации» мы обратимся в суд, ибо опубликованный материал носит клеветнический характер».*

# «Зубры» набліжаюцца да рэзідэнцыі


Фота Ул.ШЛАПАКА

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

Актывісты незарэгістраванага экалагічнага руху супраціву «Зубр» правялі пазаўчора і ўчора дзве акцыі ў цэнтры сталіцы Беларусі. Абедзве яны былі прысвечаныя лёсу зніклых людзей – вядомых на Беларусі палітычных апанентаў рэжыму: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і журналіста Дзмітрыя Завадскага.

Першая акцыя, на якую журналісты запрашаліся асабіста, распачалася ў панядзелак а другой гадзіне каля кінатэатру «Піянер», што стаіць насупраць рэзідэнцыі А.Лукашэнкі. Трое маладых людзей выйшлі з-за рогу дома і паспрабавалі разгарнуць расцяжку з патрабаваннем, датычным лёсу зніклых, але тут іх ужо чакала служба бяспекі Лукашэнкі, людзі з якой паклікалі міліцыянтаў ды разам паваклікалі наваяўленых палітычных затрыманых у гарадскі аддзел міліцыі Ленінскага раёна. Гэтыя трое былі Андрэй Пятроў, Дзмітры Абрамовіч, Антон Цялежнікаў. Ім інкрымінавалі "парушэнне правілаў пікетавання" па арт. 167 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях, а ўчора ў 15.00 адбыўся суд. На момант падпісання газеты ў друк яго вынікі яшчэ не былі вядомыя.

Але ж у панядзелак акцыя на гэтым не скончылася. На змену затрыманым выйшлі яшчэ трое хлапцоў і дзяўчына, якія трымалі ў руках партрэты з вывамі зніклых людзей. На ўсіх на вопратцы прысутнічала эмблема «Зубр» з дэвізам «Зубры не жывуць у няволі!» Так яны прастаялі пятнаццаць хвілін. У гэты ж час адна з прысутных журналістак, відаць, па просьбе кагосьці з «зуброў», раздала ўсім прысутным прэс-рэлізы, на якіх утрымліваўся наступны тэкст:

«Як некалі ў Лацінскай Амэрыцы, у Беларусі зьнікаюць людзі.

7 траўня 1999 года быў выкрадзены генэрал Юры Захаранка. 16 верасьня бясьследна зьніклі дэпутат Вярхоўнага Савету Віктар Ганчар і бізнэсмэн Анатоль Красоўскі. 7 ліпеня 2000 года зьнік Зьміцер Завадзкі. Нядаўна міністар унутраных справаў Навумаў зьняважліва заявіў, што Юры Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Зьміцер Завадзкі — усяго толькі чатыры зніклыя чалавекі з тых 4-5 тысячаў прапалых без звестак, якіх сёньня шукае МУС. Але няцяжка прадбачыць рэакцыю Навумава ў тым выпадку, калі б гэтыя чацьвёра былі яго роднымі і блізкімі. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

# У него свой Гонгадзе в шкафу

Лукашенко не имеет моральнoго права становиться кандидатом в президенты, пока не найдены Дмитрий Завадский, Юрий Захаренко, Виктор Гончар и Анатолий Красовский

**Юрис ОКРИВС**

**Многие еще не поняли, что в Беларуси уже началось свое дело Гонгадзе. Как ни странно, этому способствовала телепрограмма «Резонанс», которая спустя три недели отреагировала на сенсационное интервью в «БДГ» за 2 февраля, где объяснялась причина громких отставок силовиков.**

**«Указ Лукашенко вышел в понедельник, 27 ноября. Накануне этого, в пятницу, оперативники, работавшие по «делу Завадского», вышли на командира в/ч 3214 Павлюченко. Как мне рассказали «мои люди», во время ареста Павлюченко у него было изъято около 120 тысяч долларов, долговые расписки, по которым его спецназовцы «выбивали» долги, а также 16 видеокассет. А на этих кассетах заснят ряд убийств, а также то, как меня избивали. Можете себе такое представить?! Я это знаю из абсолютно достоверного источника, от человека, который лично арестовывал Павлюченко»,** — сказал в интервью «БДГ» Александр Грачев, бывший начальник контрольно-ревизионного управления министерства культуры Беларуси. И «БДГ» после «Резонанса» представила коллегам пленку с аудиозаписью этого интервью. Но самое главное – в течение трех недель ни Павлюченко, ни кто-либо еще не предпринял даже попытки опровергнуть эту информацию! А Белорусский военный прокурор Вячеслав Любовицкий публично отказался ее опровергнуть.

Напомню, выступая в КГБ в присутствии телекамер (и почти все было показано в специальном вечернем выпуске Белорусского ТВ), Александр Лукашенко потребовал от нового генерального прокурора Виктора Шеймана «в новых кадровых условиях в силовых ведомствах» найти пропавших людей:

**«У вас нет межличностных каких-то споров. Вы как человек президента, как первый охранник, как человек, который грудью когда-то защитил президента от пули – вы должны найти мне этих людей! Кровь с носа, любыми способами, любыми судьбами. И прежде всего Диму».** ▶

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **У Беларусі на 3,5 працэнта павялічыліся цэны на белую гарэлку.** Зараз у рознічным продажу паўлітровая «вінтавая» бутэлька гарэлкі «Крышталь-100» каштуе 1.654 рублі (раней — 1.600), «Крышталь-люкс» і «Белая Русь» — 1.703 (1.649), «Белая Русь-люкс» — 1.768 (1.711). Папярэднія павышэнні цаны адбыліся 12 студзеня і 9 лютага (абодва разы — на 3,5 працэнта).

■ **За два месяцы 2001 года ў Гродзенскай вобласці пры пажарах загінулі 34 чалавекі, з іх пяцёра дзяцей.** Паводле звестак прэсслужбы абласнога ўпраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях, гэта найбольшы паказчык за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў. За студзень-люты на Гродзеншчыне было зафіксавана 200 пажараў.

■ **У студзені 2001 года самы вялікі рост спажывецкіх цэнаў сярод Садружнасці Незалежных Дзяржаваў быў у Беларусі.** Ён склаў 4,8%. Ва ўсіх астатніх краінах гэты паказчык ніжэй. Па Туркменіі і Узбекістану звестак няма. Паводле інфармацыі статкамітэта СНД, найменшы рост спажывецкіх цэнаў у студзені адзначаны ў Азербайджане – 0,3%, у Грузіі — 0,7%,у Кіргізіі – 0,9, у Казахстане — 1,1, ва Украіне — 1,5, у Расіі — 20,8, у Таджыкістане — 4,6%.

■ **Гомельскі выканкам плануе, што ў веснавы палявы сезон на вёску выедуць працаваць да 3 тысяч чалавек, якія зараз знаходзяцца на ўліку па беспрацоўі ў гарадскім цэнтры занятаеці насельніцтва.** За 149 прадпрыемствамі Гомеля цяпер замацаваныя 75 сельгаспрадпрыемстваў (ранейшых калгасаў і саўгасаў). Прадпрыемствы горада таксама дапамогуць сялу тэхнікай і правядуць рэканструкцыю жывёлагадоўчых фермаў. Асобую ўвагу выканкам звярнуў на неабходнасць правядзення на сяле культурных і спартыўных мерапрыемстваў.

■ **У цэнтры Магілёва ў 50-гадовага цыгана было канфіскавана 161,7 грамаў гераіну.** Паводле словаў супрацоўнікаў аддзела нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў Упраўлення ўнутраных справаў Магілёўскага аблвыканкама, гэта самая вялікая партыя гераіну, выяўленая імі за час працы аддзела. Яе папярэдняя ацэнка — 25 тысяч долараў. Як лічаць эксперты, знойдзенага гераіну хапіла б на выраб 3 тысяч доз наркотыка.

**Наступны нумар НАШАЙ СВАБОДЫ выйдзе ў панядзелак, 12 сакавіка**

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА

Віцебск -6 -2
Мінск -1 +3
Магілёў -4 0
Гродна +1 +5
Брэст +2 +6
Гомель -2 +2

Крыніца: www.gismeteo.ru



**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**



**1250**

## Міліцыю цікавіць Зубр

3 сакавіка ў Брэсце на тралейбусным прыпынку «Цэнтральны» за расклейку налепак арганізацыі «Зубр» былі затрыманыя непаўнагадовыя Стракач Аляксандр і Журбіла Сяргей. Падлеткі былі дастаўленыя ў РУУС Маскоўскага раёна. Ва ўпраўленні міліцыі адбыўся кароткі допыт. Супрацоўнікі міліцыі задавалі канкрэтныя пытанні: «Хто галоўны Зубр? Колькі вам плацяць?» А таксама абяцалі «пасадзіць на тры гады». Затрыманне скончылася тым, што міліцыянеры склалі пратакол выняцця налепак, а дзяцей адпусцілі з бацькамі пад распіску. ■

Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»

## Жанчыны яднаюцца, каб уплываць на жыццё

**Рыгор БУЯН**

10 сакавіка ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры пройдзе цырымонія стварэння Кааліцыі жаночых няўрадавых арганізацыяў дзеля назірання за ходам прэзідэнцкіх выбараў. Цягам гэтага тыдня кіраўнікі ўсіх арганізацыяў – а іх каля 20 — мусяць падпісаць падрыхтаванае пагадненне пра ўтварэнне Кааліцыі.

Рабочая нарада па стварэнні Кааліцыі, у якой прынялі ўдзел Усебеларуская жаночая ліга, Беларуская арганізацыя працоўных жанчынаў, Беларускі жаночы рух «Адраджэньне Айчыны» ды іншыя жаночыя арганізацыі, прайшла яшчэ 1 сакавіка. Тады жанчыны вырашылі, што яны валодаюць неабходнымі структурамі і людскімі рэсурсамі, каб прыняць удзел у назіранні за сёлетнімі выбарамі прэзідэнта. Кааліцыя мяркуе наладзіць сталыя кантакты і шчыльна каардынаваць сваю дзейнасць з Каардынацыйнай радай па падрыхтоўцы і правядзенні назірання за выбарамі, якую ўзначальвае Мечыслаў Грыб, а таксама з Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў на чале з Алесем Бяляцкім – гэтыя дзве структуры ўжо маюць досвед назірання за выбарамі ў палату прадстаўнікоў.

Старшыня Беларускай арганізацыі працоўных жанчынаў (БАПЖ) Марыя Аліева гаворыць, што Кааліцыя ствараецца «пад выбары». Жанчыны хаця і не збіраюцца вылучаць уласнага кандыдата ў прэзідэнты, але яны жадаюць уплываць на прыняцце дзяржаўных рашэнняў. М.Аліева сцвярджае, што Кааліцыя мяркуе правесці сустрэчы з усімі патэнцыйнымі кандыдатамі ў прэзідэнты і працаваць з імі надалей. Кааліцыя ствараецца як часовая структура, аднак, на думку М.Аліевай, пасля выбараў яна можа працягнуць сваю дзейнасць.

Жанчыны хочуць стварыць уласную сістэму назірання за выбарамі. Так, БАПЖ мае свае структуры ў 30 гарадах Беларусі. БАПЖ ставіць за мэту, як выказалася М.Аліева, «падрыхтаваць тры тысячы «баявіц», гэта значыць, наглядальнікаў. Першы камень у падмурак жаночай сістэмы наглядання ўжо закладзены – БАПЖ правяла ў 15 гарадах семінары-вучобу патэнцыйных наглядальнікаў. ■

## Т-72 у пясках Марока

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

48 мадэрнізаваных танкаў Т-72 і вялікую колькасць запчастак да іх паставіла Беларусь у Марока, паведаміла расійскае Агенцтва ваенных навін са спасылкай на дырэкцыю 140-га танкарамонтнага завода ў Барысаве. Менавіта там, як сцвярджаецца, праводзіліся работы па перадпродажнай падрыхтоўцы баявых машын, якія знаходзіліся на працяглым захоўванні. У прыватнасці, на машыны выпуску пачатку 80-х гадоў былі ўстаноўлены сучасныя прыборы назірання і прыцэльвання, комплексы кіравання агнём, шэраг новых элементаў сістэмы жыццезабеспячэння. У паведамленні АВН прыводзіцца і сума кантракта на пастаўку беларускіх танкаў у паўночнаафрыканскую краіну. Праўда, гэтая інфармацыя атрымана неафіцыйным шляхам. Згодна з ёю, у выніку продажу танкаў і запчастак да іх Беларусь атрымае 10-12 мільёнаў долараў. Калі не браць у разлік кошт запасных частак, то адзін танк абышоўся Марока ўсяго прыкладна ў 250 тысяч долараў, што вельмі танна, калі размова ідзе аб мадэрнізаванай тэхніцы.

У прэс-службе Савета бяспекі Беларусі не змаглі ні пацвердзіць, ні абвергнуць паведамленне аб танкавым кантракце з Марока, спаслаўшыся на адсутнасць інфармацыі, а ў прэс-службе ваеннага ведамства адказалі традыцыйна: «Міністэрства абароны ўзбраенняў не прадае і грошай за гэта не атрымлівае». ■

БелаПАН

## 288 рублёў за рэкламу на БТ

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

6 сакавіка сямёра сябраў незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі Малады Фронт правялі акцыю з сімвалічнай назвай «Аплата рэкламы на БТ». Апошнія чатыры дні па «Рэзанансе» і ў «Тайных пружинах политики» Беларускага тэлебачання ў негатыўным кантэксце згадваўся Малады Фронт, ствараючы яму такім чынам рэкламу. Маладафронтаўцы палічылі за неабходнае заплаціць за рэкламу. Сем чалавек сабралі 288 беларускіх рублёў, паклалі іх на спецыяльны рахунак «Благотворительный взнос для программы «Рэзананс» у Беларусбанку. Квіток маладафронтаўцы аднеслі на Камуністычную, 6, дзе месціцца частка праграмаў БТ. ■

СВЯТОЧНЫ ЗДЫМАК



Алімпійскія чэмпіёнкі Сіднея: Кацярына Карстэн, Эвеліна Зверава і Яніна Карольчык

## Прапанову БХК падтрымаў суд

**Наталля КУЛАГІНА**

Канстытуцыйны суд Беларусі падтрымлівае зварот Беларускага Хельсінкскага камітэта (БХК) да суб'ектаў, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы, з прапановай узаконіць права грамадзян на абарону, у прыватнасці права абвінавачваемага або падазронага мець, акрамя абаронцы, свайго прадстаўніка ў крымінальнай вытворчасці. Пра гэта гаворыцца ў лісце, які 5 сакавіка паступіў у БХК з Канстытуцыйнага суда.

Як паведамілі ў прэс-службе БХК, згаданы зварот камітэта быў выкліканы рашэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда, якая не дапусціла вядомага юрыста Гары Паганяйлу да судовага працэсу над былым рэктарам Гомельскага дзяржаўнага мединстытута Юрыем Бандажэўскім у якасці яго прадстаўніка.

У лісце Канстытуцыйнага суда адзначаецца, што грамадзяне маюць права ў любы момант атрымаць юрыдычную дапамогу, у тым ліку пры рэалізацыі імі сваіх правоў у працоўных, жыллёвых, адміністрацыйных, падатковых і іншых праваадносінах; супрацьдзеянне аказанню прававой дапамогі ў Беларусі забараняецца.

У сувязі з тым, што ў Нацыянальным цэнтры законапраектнай дзейнасці пры прэзідэнце рыхтуецца праект закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальна-працэсуальны кодэкс, Канстытуцыйны суд накіраваў туды ліст з просьбай звярнуць увагу на праблемы, узнятыя Беларускім Хельсінкскім камітэтам. ■

БелаПАН

## Зноў расце запазычанасць

**Канстанцін УВАРАЎ**

З пачатку года ў Магілёўскай вобласці адзначаецца рост запазычанасці па заработнай плаце. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, па стану на 28 лютага агульная сума доўгу склала 1 мільярд 258 мільёнаў рублёў, або 4,5 працэнта месячнага фонду зарплаты.

Спецыялісты адзначаюць, што гэта — найгоршы паказчык са жніўня 2000 года, калі ўдзельная вага запазычанасці ў фондзе зарплаты складала 0,4 працэнта. У студзені 2001-га гэты паказчык знаходзіўся на ўзроўні 3,9 працэнта. ■

БелаПАН

## Асуджаны «Горад»

**Юрась ДУБІНА**

6 сакавіка Крычаўскі райсуд прысудзіў штраф галоўнаму рэдактару незарэгістраванай незалежнай газеты «Наш Вольны Горад» Мікалаю Маторанку штраф 50 мінімальных заробкаў і канфіскаваў увесь тыраж нумара. Суд палічыў, што М.Маторанка ў зговары з галоўным рэдактарам газеты «Вольны Горад» Сяргеем Няроўным надрукавалі аднолькавыя газеты і такім чынам парушылі правілы прадпрымальніцкай дзейнасці. Суддзя фактычна аб'яднаў наклады двух выданняў і зрабіў выснову, што абодва рэдактары незаконна перавысілі наклады сваіх газетаў дзеля атрымання прыбытку.

Напярэдадні той жа Крычаўскі суд вынес аналагічны прыгавор рэдактару «Вольнага Горада» Сяргею Няроўнаму: штраф 50 мінімальных заробкаў плюс канфіскацыя 296 асобнікаў газеты.

Гісторыя пачалася напачатку лютага, калі ў Крычаве быў затрыманы кур'ер, які вёз са Смаленска наклады дзвюх розных газетаў: «Наш Горад» і «Наш Вольны Горад». Абедзве газеты незарэгістраваныя і, па заканадаўстве, іх наклады не павінны перавышаць 299 асобнікаў. Суд аб'яднаў наклады абедзвюх газетаў і прад'явіў галоўным рэдактарам абвінавачванне ў парушэнні правілаў прадпрымальніцкай дзейнасці. Як вынік – і С.Няроўны, і М.Маторанка атрымалі штраф па 50 «мінімалак». Самае цікавае ў тым, што затрыманне газетаў адбылося напачатку лютага, калі мінімальны заробак складаў 3.600, а штраф налічваўся ўжо з улікам павышанай з 1 сакавіка «мінімалкі» да 5.700 рублёў.

Мікалай Маторанка ўпэўнены, што суд выконваў палітычны загад. «Ну як можна за 15 хвілінаў напісаць судовае заключэнне на чатырох старонках, — гаворыць М.Маторанка. – Тут усё ясна. Мы ішлі на суд пасмяяцца. Маючы бясспрэчныя доказы таго, што нас праслухоўвалі, што незаконна затрымлівалі нашага кур'ера, мы заяўлялі хадайніцтва заслухаць у якасці сведкаў начальніка Крычаўскага КДБ Язерскага і начальніка міліцыі Агеева. Гэта дало б падставы ўзбудзіць супраць іх крымінальную справу, аднак суд імгненна нашыя хадайніцтвы адхіляў».

Мікалай Маторанка і Сяргей Няроўны збіраюцца абскардзіць рашэнне Крычаўскага райсуда ў Магілёўскім абласным судзе. Пры няўдачы галоўныя рэдактары мяркуюць звярнуцца ў Вярхоўны суд. ■

## Укладчыкам «Белбалтыі» шанцуе

**Аляксей АРЭШКА**

Парадак плануемага вяртання валютных укладаў укладчыкам ТАА «Сумеснага беларуска-латвійскага банка «БелБалтыя» зацверджаны сумеснай пастановай Савета міністраў і Нацбанка № 295/5 ад 1 сакавіка.

Гэтым дакументам, у прыватнасці, устаноўлены парадак перадачы абавязацельстваў па пагашэнні ўкладаў грамадзянаў у замежнай валюце з банка «БелБалтыя» ў акцыянерны ашчадны банк «Беларусбанк», вызначаны сумы і тэрміны выплаты ўкладаў ашчадным банкам, а таксама меры па аказанні яму падтрымкі. Валютныя даўгі «БелБалтыі» перад укладчыкамі ацэньваюцца прыкладна ў 18 мільёнаў долараў ЗША.

Згодна з зацверджанай пастановай, Нацыянальны банк прадаставіць «Беларусбанку» беспрацэнтны крэдыт у беларускіх рублях для набыцця дзяржаўных каштоўных папер. Даходы, атрыманыя ад аперацыяў з ДКА, будуць паступаць на асобны рахунак для пагашэння запазычанасці банка «БелБалтыя» перад укладчыкамі ў замежнай валюце або, па іх жаданні, у беларускіх рублях па курсу Нацбанка, устаноўленым на дзень выплаты.

Згодна з пастановай, «Беларусбанк» прымае абавязацельствы па пагашэнні толькі асноўнай сумы ўкладу, якая лічыцца па балансе на канец банкаўскага дня 30 снежня 2000 года. Выплата ж працэнтаў, прадугледжаных па заключаным з банкам «БелБалтыя» дагаворы, а таксама няўстойкі (штрафы, пені) будуць рабіцца за кошт маёмасці гэтага таварыства з абмежаванай адказнасцю.

Грамадзяне, якія па розных прычынах не перавядуць абавязацельствы па пагашэнні ўкладаў у ААБ «Беларусбанк», захоўваюць права прэтэндаваць на вяртанне зберажэнняў за кошт маёмасці банка.

Для афармлення перадачы абавязацельстваў па пагашэнні ўкладу ў ААБ «Беларусбанк» грамадзяне да 1 чэрвеня 2001 года павінны падаць заяву ў ТАА «Банк «БелБалтыя» аб скасаванні дагавора банкаўскага ўкладу ў замежнай валюце з указаннем яго сумы і згоды аб пераводзе. На падставе пададзеных заяўваў, з улікам звестак бухгалтарскага ўліку будзе складзены рэестр укладчыкаў і перададзены да 1 ліпеня 2001 года «Беларусбанку». Гэты банк да 1 верасня бягучага года заключыць дагаворы з фізічнымі асобамі аб пагашэнні запазычанасці на ўмовах, прадугледжаных пастановай. Выплаты будуць рабіцца паступова, часткамі. Першую суму ў 500 долараў ЗША кожны ўкладчык павінен атрымаць праз год. Пасля двух, трох і трох з паловай гадоў будзе выплачвацца ў такім жа памеры і астатняя сума ўкладаў. Поўны ж разлік плануецца зрабіць пасля заканчэння чатырох гадоў. ■

БелаПАН

## Наркатычны эфект абярнуўся трагедыяй

**Ірына ШАНЦАВА**

Трое 17-гадовых падлеткаў — дзве дзяўчыны і адзін хлопец — шпіталізаваны ў гарадскую бальніцу Мазыра з цяжкім атручэннем.

Усе падлеткі — жыхары горада Нароўля. Некалькі дзён яны адсутнічалі дома і на занятках у прафтэхвучылішчы, і толькі 3 сакавіка педагогі звярнуліся ў міліцыю з заявай аб знікненні дзяцей. Неадкладна ў ПТВ прыбыў інспектар па справах непаўналетніх. Праведзенае ім апытанне аднакурснікаў дазволіла неўзабаве адшукаць зніклых навучэнцаў. Іх знайшлі ў адным з прыватных дамоў у непрытомным стане; чацвёрты — іх равеснік і аднакурснік — ужо загінуў.

Пры аглядзе дома было ўстаноўлена, што падлеткі ўжывалі спіртное і, як мяркуецца, медыцынскія прэпараты, чым дасягаўся наркатычны эфект. Магчыма, адбылася перадазіроўка. На думку ўрачоў, у непрытомным стане дзеці правялі каля паўтара сутак. Па другой версіі, падлеткі адтруціліся чадным газам ад печкі. У рэанімацыйным аддзяленні гарадской бальніцы Мазыра, у пагражаючым для жыцця стане знаходзіцца цяпер толькі дзяўчына. ■

БелаПАН

## Рабаўнікі ў дзяржаўных тогах

**Віктар БУЙНІЦКІ**

Савет галіновага прафсаюза аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання (АСМ) звярнуўся да Генпракурора Віктара Шэймана з патрабаваннем прыняць меры да кіраўнікоў шэрагу дзяржаўных прадпрыемстваў галіны. Ігнаруючы рашэнне Канстытуцыйнага суда, паводле якога прафсаюзныя ўзносы могуць пералічвацца па безнаяўным разліку на рахункі «пярвічак», дзяржаўныя чыноўнікі на прадпрыемствах незаконна ўтрымліваюць атрыманыя грошы, адрасаваныя якраз першасным структурам прафсаюза АСМ. Па пісьмовай заяве работніка прафсаюзны ўзнос у суме 1% ад заробку мусіць пералічвацца праз бухгалтэрыю прадпрыемства прафсаюзным «пярвічкам». На гэты момант сума «арыштаваных» грошай складае 172.694 тысячы рублёў. Адміністрацыя МАЗа трымае першынство па суме «ўкрадзеных» грошай прафсаюза – 60 мільёнаў рублёў. Кіраўніцтва Барысаўскага завода аўтатрактарнага абсталявання не пералічыла амаль 23 мільёны, Мінскага маторнага і Мінскага падшыпнікавага заводаў – па 20 мільёнаў, Мінскага завода калёсных цягачоў – 26 з паловай мільёнаў.

«Зварот Савета прафсаюза работнікаў АСМ у мінпрамысловасці, Савет ФПБ, у Савет міністраў не змяніў сітуацыю, хаця ёсць даручэнне першага намесніка старшыні Саўміна Кабякова тэрмінова пагасіць на дзяржаўных прадпрыемствах запазычанасці па прафсаюзных узносах», — гаворыцца ў звароце. Дзеянні кіраўнікоў некаторых прадпрыемстваў маюць прыкметы злачынства, якое новы Крымінальны кодэкс, што ўступіў у сілу з 1 студзеня, кваліфікуе як «перашкоду законнай дзейнасці прафсаюзаў». Пракурор Партызанскага раёна Мінска праігнараваў зварот кіраўніцтва АСМ нявесці законнасць на Мінскім маторным заводзе. Больш за тое, пракуратура нават не абцяжарыла сябе адказам Савету прафсаюза.

«Савет прафсаюза просіць вас даць указанні адпаведным раённым пракуратурам прыняць меры пракурорскага рэагавання да наймальнікаў і іх службовых асобаў, вінаватых у перашкодах законнай дзейнасці прафсаюза, што выяўляецца ў сістэматычным утрыманні і выкарыстанні па ўласным уяўленні прафсаюзных узносаў», — піша Савет АСМ Віктару Шэйману. ■

## БелКамБанку можа не пашанцаваць

**Аляксей АРЭШКА**

Праўленне Нацыянальнага банка Беларусі дазволіла кліентам ЗАТ «БелКамБанк» адкрываць па сваім выбару бягучыя разліковыя рахункі ў іншых камерцыйных банках.

Гэта зроблена ў сувязі з адкліканнем у БелКамБанка агульнай ліцэнзіі на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый. Пры гэтым банк, які прыняў кліента на абслугоўванне, абавязаны неадкладна паведаміць аб гэтым БелКамБанку. Устаноўлена таксама, што ў выпадку прыняцця рашэння аб ліквідацыі ЗАТ «БелКамБанк» рахункі яго кліентаў будуць закрывацца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

БелКамБанк — адзіны з банкаў Беларусі, які не змог у 2000 годзе сфарміраваць свой статутны фонд у мінімальна неабходным памеры. У лютым 2001 года Нацбанк адклікаў у ЗАТ «БелКамБанк» агульную ліцэнзію на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый, генеральную ліцэнзію на ажыццяўленне валютных аперацый і ліцэнзію на прыцягненне сродкаў фізічных асоб. Такое рашэнне было прынята ў сувязі з нездавальняючым фінансавым становішчам БелКамБанка, невыкананнем абавязацельстваў перад укладчыкамі і крэдыторамі. ■

БелаПАН

# Баба як гаспадарчы рэсурс

**Адам КАСТЫРСКІ,**
**народны дэмограф**

**Статут ВКЛ 1588 года (арт.12, п. 5,6) браў пад абарону гонар і годнасць жанчын простага стану. А ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі артыкула пра «жанчыну» няма, гэтак сама як пра «гонар» і «годнасць». На халеру яны будаўнікам камунізму.**

Але, наконт жанчын. Не трэба думаць, быццам з калектыўным розумам партыі здарыўся сістэмны глюк. Ленінцы дакладна ведалі, што, нават перавыканаўшы план, абсалютная большасць (90%) грамадзянаў БССР імкнецца да ўсталявання інтымных адносінаў з грамадзянкамі.

Дзеля найлепшага выкарыстання масавых памкненняў працоўных было зацверджанае ўсенароднае свята — Міжнародны жаночы дзень 8 сакавіка. Ягонай нябеснай заступніцай ёсць св. Беата.

Такім чынам жаночае пытанне было раз і назаўсёды вырашанае ў адпаведнасці з вучэннем дыялектычнага матэрыялізму, і адкрыліся магчымасці выкарыстання жанчыны ў святой справе барацьбы за шчасце працоўных.

Правадыр тав. Сталін вынайшоў, што бабы — гэта рэсурс, рэзерв і палітычная маса. За яго панаваннем на падуладнай савецкім тэрыторыі нашага краю колькасць работніц пачала імкліва ўзрастаць і дасягнула найлепшага па ўсім СССРы паказчыка – 40% ад агульнай колькасці занятых у грамадскай гаспадарцы.

Паколькі галоўнай задачай на той час было перааадоленне істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай, то месячны заробак работніцы быў толькі ўдвая меней, чым заробак работніка. Натуральна, у калгасніц розніца была значна болей.

Каб тыя калгасніцы ў роспачы не ўцяклі з калгаса і не патрапілі ў абдымкі трацкістаў і нацыяналістаў, зрабілі так, што пашпартаў у тых кабетак не было наогул. У адказ на клопат партыі ўдзячныя жанчыны занялі 8% вакансіяў трактарыстаў і 26% месцаў камбайнераў.

Механізацыя калгаснай вёскі выклікала лютую нянавісць класавага ворага. Барацьба з ім абвастралася да абсалютна пранайдальнага напружання. Таму сярод закатаваных абаронцамі справы рэвалюцыі беларусаў 11% складалі жанчыны. Гэты факт яскрава сведчыць пра высокую ідэйную свядомасць нашых жанчын.



Можа і не пра свядомасць, а пра імкненне выжыць і зберагчы дзяцей. Дзеля гэтага жанчына можа ўсё. За лічаныя тыдні пад два мільёны жанчын збудавалі абаронны паўз Дняпро, Дзвіну, Сож, Прыпяць, ля Магілёва, Віцебска, Оршы, Быхава, Гомеля.

На фронце падчас апошняй вайны пабылі сотні тысячаў нашых жанчын. Больш за 16 тысяч беларусак атрымалі баявыя ўзнагароды. Той, хто быў на вайне, ведае, што забыцца пра вайну нельга. Нельга зрабіцца такім, якім быў да яе.

Дабра, дабрыні пасля вайны болей не стала, як не стала болей мужчын і хлеба дзецям. На 1 студзеня 1948 г., 94% калгасніц не атрымалі грошай, а 41% на працадні атрымалі па 200 грамаў збожжа. Сядзіце куды, купіце 200 грамаў збожжа, паглядзіце на іх і памяніце тых калгасніц.

Нешта да лепшага з тых часоў змянілася, нешта дрэнным засталося. Дзесяткі тысячаў жанчын працуюць у гэтак званых неспрыяльных умовах, 90% дворнікаў – жанчыны, больш за палову работнікаў мясцовай прамысловасці і г. д.

Зараз у начальства ў пашане машынабудаўніцтва. Дык вось у ім 60% жанчын на цяжкай і малакваліфікаванай працы. А ў лёгкай прамысловасці 99% — ткачыхі, 95% — краўчыхі, а 96% дываны плятуць. Дарэчы, фактычны разрыў па заробках паміж мужчынамі і жанчынамі блізка 30%.

Калі ж прыходзіць кабета да хаты, там чакаюць яе хатнія справы: гэтак сабе на тры гадзіны ў горадзе і на чатыры ў вёсцы.

Ад такога клопату партыі, урада ды ўласнага мужыка, ад шуму, вібрацыі і перагрузак расце колькасць неданошаных дзетак і пасляродавых хваробаў. У нованароджаных неразвітая нервовая сістэма, слабыя абаронныя рэакцыі.

Доля сем'яў з адным малым дзіцем складае 62% (у Расіі –50%, у ЗША — крыху болей за 40%), 32% мае двух дзетак і 5% — трох і болей.

Праўда, вынікі апошняга перапісу сведчаць, што ваенны разрыў паміж колькасцю мужчын і жанчын паціху скарачаецца: у 1959 г. на 1.000 мужчын было 1.250 жанчын, у 1979 – 1.156, сёлета – 1.126.

Іншы разрыў пачаўся: тытунёвы, алкагольны, а наперадзе яшчэ наркатычны. Такога разрыву па працягласці жыцця мужчын і жанчын, як у нас, каб пашукаць, хіба ў Расіі знойдзеш. Больш на дзесяць гадоў за мужчын жанчыны жывуць, і дай ім Бог здароўя.

Каб спыніць ганебнае адставанне, Лукашэнка сганяе адборных мужчын у «сілавыя структуры». Толку мала: толькі 78% жаўнераў і 65% афіцэраў у нашых узброеных сілах маюць першую групу здароўя.

Мабыць, гэтым, а не дрэнным характарам, абумоўлены шалёны рост разводаў. Калі ў 80-я гады колькасць разводаў на 1.000 насельніцтва складала 3,2 чалавекі, у 1990 — 3,4, дык зараз болей за 4,6. Па гэтым паказчыку нас апярэджваюць толькі расійцы з амерыканцамі.

Прырода прымушае спяшацца. Сярэдні ўзрост, у якім беларусы ідуць да шлюбу, сёння 24 гады для мужчын і 22 гады для жанчын. Пры тым у вёсцы не надта ажэнішся, бо дзеўкі з'язджаюць у горад, а там боўтаюцца на абы-што, бо ў горадзе замнога жанчын.

Колькасць шлюбаў на 1.000 насельніцтва няўхільна змяншаецца і вагаецца вакол сціплай лічбы 7, а было ж 10 і болей. Калі ў 1990 годзе было 10,5 шлюбаў на 1.000 гарадскога насельніцтва і 7,7 на 1.000 вясковага, дык зараз у горадзе 8, а ў вёсцы — 5.

Карацей, атрымліваецца ў іх шлюб пад плотам, а вяселле потым. Нягледзячы на надзвычайна хуткі рост колькасці дзетак, народжаных па-за шлюбам, нармальный кампенсацыі скарачэнню насельніцтва гэта не робіць.

Дзеці, што мае нарадзіць маладуха, перасталі быць для яе крытэрыем выбару партнёра. А калі хто дзяцей хоча, дык не ва ўсіх атрымліваецца, бо як на тую бяду блізка чвэрці сем'яў пакутуюць на няплоднасць і мусяць лячыцца, часцяком безвынікова.

Але што з усяго нагаворанага вынікае з пункту гледжання будучыні? У апошняе дзесяцігоддзе Беларусь наша патрапіла ў эпоху дэпапуляцыі. Гэта значыць колькасць памерлых устойліва штогод перавышае колькасць народжаных.

Паказчыкам нараджальнасці і смяротнасці з'яўляецца праміле, то бок колькасць дзетак, што нарадзілі за год 1.000 жанчын дзетароднага ўзросту (ад 14 да 49 гадоў).

Паказчык той скараціўся з 13,9 у 1990 годзе да 8,8 у 1997. Потым ён пайшоў угару з прычыны таго, што з 70-га па 80-ы гады нарадзілася досыць многа дзяцей, больш чым з 60-га па 70-ы, у каторыя дзяцей нараджала пакаленне, якое з'явілася на свет падчас Другой сусветнай вайны. У выніку зараз мы маем 9,3 праміле. Тым жа часам каэфіцыент смяротнасці ўзняўся з 10,7 памерлых на тысячу жыхароў, старэйшых за адзін год, да 14,2.

Атрымліваецца, што працаздольных крыху паболела, але дзяцей значна паменела. Зразумела, як здароўя у каго няма, то ён байца пладзіцца. Такім чынам, працаздольных сёння 5.780,0 тысяч, дзетак і падлеткаў да 16 гадоў – 2.103,8 тысяч і старых — 2.151,4 тысяч.

За апошні год мінулага тысячагоддзя насельніцтва краю без вайны зрабілася меншым за 10 мільёнаў.

Адзін застаўся ў нас рэсурс – бабы. Яны выратуюць. Трэба абараць прэзідэнтам жанчыну. Яна прымусіць мужыкоў рабіць зарадку, кінуць піць, паліць і пачаць працаваць. Ад гэтае навалы мужчынскія хваробы ўцякуць, пузы ападуць, мужчыны пачнуць глядзець на жанчын натуральна і, адчуўшы тое, што павінны адчуваць, стануць цягаць ім кветкі і дапамагаць не толькі па вызначаным даўнейшай партыяй Леніна-Сталіна графіку. ■

ЭКСПРЭС

## Прогнозы, долги, расчеты

**Андрей КАРПОВИЧ**

### Нацбанк Беларуси усилит работу по управлению рисками в банковской системе

Национальный банк Беларуси собирается усилить работу, направленную на управление рисками в банковской системе. Об этом сообщил первый заместитель председателя правления Национального банка страны Павел Каллаур. Как известно, за последнее время сразу несколько белорусских коммерческих банков оказались в кризисном состоянии, причем по двум кредитно-финансовым учреждениям — «БелБалтии» и «БелКомБанку» — дело идет к ликвидации.

По словам Каллаура, возможно, в некоторых вопросах Нацбанк подходил либерально, когда считал, что руководство и собственники банков понимают происходящие процессы и в состоянии выстроить систему внутреннего контроля, способную предостеречь их от возможных потерь.

### В Беларуси вводятся российские ставки экспортных пошлин на нефть и нефтепродукты

Российские ставки экспортных пошлин на нефть и нефтепродукты вводятся в Беларуси с 1 марта. В связи с этим существовавшие у нас экспортные пошлины на нефть повышаются более чем в два раза. С 1 марта за вывоз тонны сырой нефти придется платить 48 евро. Пошлина на дизельное топливо составит 39 евро, пошлины на вывоз мазута — 31 евро.

Однако, в комитете топливно-энергетической промышленности белорусского министерства экономики считают что, повышение пошлин не приведет к сокращению объемов экспорта нефти и нефтепродуктов из Беларуси. Дело в том, что в соответствии с белорусско-российскими соглашениями экспортерам нефтепродуктов будет компенсироваться НДС, который они уплачивают в России при вывозе сырой нефти. Компенсация будет производиться на таможне на основе документов об уплате НДС. Сумма уплаченного НДС будет засчитываться при определении размера таможенных пошлин. ■

# Звездный час мордатых

**Тамаш ПАЛЬМАЧИНСКИЙ**

Чем дальше в лес, тем толще партизаны. На прошлой неделе Лукашенко начал в полной тайне от общественности суетливо распродавать крупную государственную собственность за «сколько дадут» в руки подозрительных российских субъектов. Таким образом, как считают некоторые журналисты, он пытается продлить свое цепляние за власть и с помощью полученных денег задобрить нищих граждан страны разовыми подачками. Однако есть серьезные основания считать, что антинародный режим собирается после выборов «делать ноги» в Россию на подмосковные дачи и поэтому решил присвоить и распродать все, что возможно за оставшийся срок и только российским толстосумам, завязаным на окружение главного хоккеиста страны. Это, возможно, диктуется тем, что Москва в таком случае гарантирует узурпатору и его слугам полную неприкосновенность и возможность беспрепятственно пользоваться «денационализированным». Есть слухи, что такое секретное соглашение уже существует, а в наших условиях, когда все наихудшие слухи почти всегда подтверждаются, имеет смысл внимательнее приглядеться к шаловливым ручкам нынешней власти (вспомним аферу с продажей Перу истребителей Миг-29). Вполне реально, что есть уже детальный план распродажи всей страны.

Первой жертвой семилетнего периода небывалого расцвета национальной колхозной экономики шкловского образца стала пивоваренная отрасль страны. Когда-то, впрочем, совсем недавно это была сильнейшая позиция Беларуси в торговле с восточным соседом. Вся Россия пила тогда качественное белорусское пиво. Употреблять же российское пиво еще в 1998 году было невозможно. Оно и рядом не стояло с белорусским. Казалось бы, развивай эту отрасль, привлекай инвестиции в нее, используй новые технологии, устанавливай современное оборудование, приглашай специалистов для консультаций, увеличивай объемы производства и продаж, акционируй, продвигай на новые рынки и т.д. Вместо одного ледового дворца обнови дври пивзавода. Но!

Но именно эта рентабельнейшая отрасль была, считаю, целенаправленно и злонамеренно загублена, поставлена в самые невыгодные условия по сравнению с российскими пивными предприятиями. Впрочем, вполне сознательно и целенаправленно были ослаблены все крепкие экономические позиции Беларуси во внешней торговле. Антинародным режимом были фактически удушены все ростки отечественного бизнеса, уничтожены частные банки, присвоена недвижимость, загнаны в полную безысходность заводы и фабрики, катастрофически разрушена вся экономика страны. Теперь понятно, для кого Лукашенко расчищал место. Одновременно с удушением белорусской экономики российские производители получили в Беларуси режим наибольшего благоприятствования. В ущерб белорусам, прилавки магазинов страны заполнили низкокачественные и дорогие товары восточного соседа. Были почти изгнаны с белорусского рынка, дискриминированы ведущие мировые марки пива. Российская торговая мафия интегрировалась с белорусской властной структурой. Белорусы стали оплачивать рост экономики России за счет своего здоровья и благополучия. Нужно ли этому удивляться, если почти все окружение узурпатора нынче состоит из бывших российских граждан, не нашедших применения своим талантам на родине. Да и сам премьер Ермошин, как известно, занесен сюда случайным ветром откуда-то из-под Новочеркасска. Надобно ли ему переживать за национальные интересы Беларуси?



Фота IREX/ProMedia

И вот он, закономерный и давно предсказанный журналистами НАШАЙ СВАБОДЫ финал. За бесценок (что такое пара-тройка десятков миллионов «зеленых» для такой отрасли, как пивная?) Лукашенко отдает фактически всю белорусскую пивную индустрию в руки некоего Теймураза Баллоева, президента ОАО «Балтика». Теперь белорусское пиво будут делать белорусы, пить будут белорусы, а денежки за него в карман будут класть исключительно баллоевцы. Когда-то, на заре своего появления на рынке, «Балтика» втихаря присвоила рекламный слоган известной белорусской фирмы «Олдвик»: «Знаменитое чешское пиво» и переделала его в «Знаменитое российское пиво». Теперь пришла очередь всего пивного бизнеса. Надо ли говорить, что мы долго теперь не увидим нормального пива из нормальных стран, а будем пить то, что будет выставлять нам нововявленный монополист. Понятно, что он насмерть будет стоять за своего благодетеля и подельника, поскольку понимает, что ни Лукашенко, ни палатка №2 не имеют юридического права торговать народной собственностью. При нормальной демократической власти их закулисные соглашения будут признаны недействительными.

***P.S.*** У вас все украли и продали на сторону. Называется — Интеграция.

# «Ариадна» поможет попавшим в беду

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Зарегистрированная в 1996 году Белорусская Ассоциация молодых христианских женщин — частью всемирного женского христианского волонтерского движения, которое объединяет 25 миллионов женщин. Уже 150 лет это волонтерское движение существует в ста странах мира. Его деятельность направлена на развитие лидерства женщин и девушек, увеличение их значимости на всех уровнях социальной жизни.**

Первым проектом, осуществленным организацией, стало исследование на тему «Насилие в отношении женщин как социальная проблема». Это был достаточно смелый шаг, поскольку тема насилия над женщинами считается в нашем обществе чем-то не совсем приличным. Социологическое исследование, а также опрос тысячи студенток трех минских ВУЗов дали интересные данные. Некоторые факты просто шокировали.

В частности, в рамках исследования ставилась цель определения степени важности для девушек разных социальных ролей как традиционных, так и современных. В списке назывались роли матери, жены, хозяйки дома, привлекательной женщины, профессионала, общественной деятельницы. Пожалуй, сюрпризом для самих исследователей стало то, что самой значимой для студенток всех ВУЗов и всех возрастов оказалась роль «привлекательной женщины». Ее для себя как очень важную выбрало до 98% девушек. А ведь эта роль предполагает полную зависимость жизни и планов от благосклонности мужчины, от того, нравишься ли ты ему. В этой роли женщина без мужчины существовать не может. Согласно тем же исследованиям, только немногим более половины студенток в той или иной мере стремятся к самостоятельности. Увы, быть несамостоятельной – это нормальное состояние женщины в нашей культуре.

Недавно в рамках научной работы генерального секретаря «Ассоциации молодых христианских женщин» кандидата юридических наук Светланы Буровой было проведено исследование по теме насилия. И снова – парадоксы. Например, дом, который всегда воспринимается людьми как «моя крепость», оплот надежды и защиты, является для девочек наименее безопасным местом. Именно там их очень часто бьют родители, и, что уж совсем невероятно, матери чаще, чем отцы. В рамках проекта были проведены три публичные акции. Первая, еще в 1998 году, была посвящена Международному дню борьбы против насилия над женщиной.

Оповестили газеты, расклеили социальную рекламу, в которой женщинам было предложено обратиться в этот день по телефону доверия. Всех позвонивших объединяло то, что практически все они были жертвами сексуального насилия, кроме того, ни одна из них не обратилась после этого в милицию, и все – нуждались в психологической поддержке и помощи.

Следующая «Неделя против насилия над женщиной» была проведена через год. На этот раз в течение недели женщинам предлагались консультации юристов и психологов, проводились тренинги по самообороне и психологической защите от насилия. Занятия проводил преподаватель академии физической культуры, для которого эта тема стала настоящим откровением. Женщины приходили на занятия не для того, чтобы поплакаться в жилетку и рассказать о своей горькой доле, а чтобы научиться выживать и защищаться от тех, кого традиционно принято считать и называть защитниками.

Еще через год в Минске прошла новая «Неделя без насилия» под девизом: «Ты сама можешь остановить насилие». Полученные в ходе этих мероприятий результаты были обобщены и показали, что проблема существует, но она загнана глубоко внутрь общества, которое всегда учило женщину терпению и покорности, приговаривая: «Такова твоя женская доля», «Если бьет – значит, любит»...

Между тем, насилие очень разнообразно, и бывает не только физическим, но и сексуальным, психологическим, вербальным, экономическим. Трудно поверить, но здесь рассказали о жене известного белорусского бизнесмена, которая выпрашивает у мужа буквально каждую копейку. А когда с нею договорились о встрече, она не смогла приехать, потому что у нее не было денег на автобусный талончик... Как показали результаты исследований, насилию подвергаются не только женщины из неблагополучных семей и жены алкоголиков, но и успешные на первый взгляд дамы, которых высокообразованные мужья бьют умело, так, чтобы не было видно синяков и ссадин. По-прежнему общество «отправляет» женщину на кухню либо в детскую, а мужчину рассматривает как человека, принимающего решения. Результат такой политики – налицо, между тем, по статистике сегодня женщины в нашем обществе гораздо образованнее мужчин, но при этом они имеют куда меньший доступ к конкурентоспособной высокооплачиваемой работе. А еще, именно женщина чувствует себя ответственной за доход семьи, именно она ищет дополнительный заработок, возможность пополнить семейный бюджет. И именно она в первую очередь становится жертвой торговцев живым товаром.

2 декабря минувшего года «Белорусская ассоциация молодых христианских женщин» и неправительственная организация, польский Фонд против торговли женщинами *La Strada* объявили о начале совместного проекта «Ариадна».

Если кто-то считает, что основной контингент «живого товара» составляют славянки, он глубоко ошибается. Трафик – а именно так называется торговля людьми – проблема общемировая. До 1989 года основным предметом купли-продажи были женщины из Латинской Америки и Африки, после падения Берлинской стены в Западную Европу ринулись чешки и польки, после развала СССР лидировать стали украинки. За ними потянулись россиянки, девушки из прибалтийских стран, сегодня пальму первенства уверенно удерживают молдованки. Белоруски находятся где-то в конце этого невеселого списка.



Плакат: позорные минуты «сильного» пола

О том, чем заканчиваются истории этих женщин, общество узнает крайне редко, поскольку те, кто стал объектом торговли, говорить об этом не хотят. И немудрено: в большинстве стран действия правоохранительных органов направлены не против торговцев, которых крайне трудно найти и привлечь к ответственности, а против жертв, с которыми обращаются как с преступниками.

Кроме того, рэкетиры, как правило, угрожают женщинам, могут шантажировать их фотографиями, сделанными во время изнасилований.

Поэтому официальную информацию о масштабах торговли женщинами во всем мире рассматривают как верхушку айсберга, лишь слегка возвышающуюся над темной водой. Так, согласно официальной статистике, с января 1999 года по апрель 2000 из Германии, Чехии, Нидерландов, Италии, Израиля, Литвы, Латвии, Греции, Польши было депортировано в Беларусь 109 девушек, занимавшихся проституцией. Однако, по сведениям *La Strada*, очень часто обращающиеся к ним за помощью девушки из других стран свидетельствуют, что вместе с ними в публичных домах Восточной и Западной Европы работали и белоруски. Рассказывают и уж о совсем невероятном случае, когда белорусскую любительницу приключений обнаружили на американской военно-морской базе, расположенной в Макао. Причем, силой ее там никто не удерживал. Однако, так бывает не всегда. Сколько женщин пропадает за границей без вести, сколько работает в рабских условиях труда, шьют в подпольных мастерских и так далее, узнать не представляется возможным.

Сотрудничество с Польшей в данном вопросе не случайно, поскольку через эту страну осуществляется транзит и контрабандный вывоз женщин в Западную Европу. Кроме того, часто Польша выступает страной назначения — именно там нередко оказываются белорусские женщины, отправляющиеся за границу в поисках лучшей жизни.

В рамках проекта в Минске была открыта телефонная консультационная линия для женщин, желающих выехать за границу с целью поиска работы, учебы или замужества. Обратившейся туда женщине предложат прежде, чем уехать, по крайней мере удостовериться, что фирма-посредник, которая ее приглашает, имеет лицензию на трудоустройство белорусских граждан за границей, посоветуют запастись адресом и номером телефона белорусского посольства или консульства той страны, куда она едет, предупредят о том, что паспорт нельзя отдавать никому и ни под каким предлогом. Любой из этих банальных советов может спасти жизнь.

Поскольку эту проблему невозможно решить в масштабах одной страны, поддержку проекту оказывают ОБСЕ и Бюро по демократическим институтам и правам человека. Вообще же, проблему можно решить, лишь объединив усилия стран происхождения, стран назначения и стран транзита.

*Номер «горячей линии» Ассоциации — (017) 245-31-67.*

# Мінская праваслаўная аўтаномія

Пятрусь КЛІМКОВІЧ

Мінчане добра ведаюць безгаспадарны будынак, што адзіны застаўся ад шумнай некалі Гандлёвай вуліцы. Ён сумна стаіць каля моста цераз Свіслач блізка ад станцыі метро «Няміга». Гадоў дзесяць таму, у лепшыя, чым сёння, часы стаўлення да спадчыны, гэты дом быў аддадзены ўладамі Беларускаму Фонду культуры, і планавалася, што там будзе галоўны асяродак БФК. Ашчаджаючы пабудову, яе за грошы БФК нават накрылі бляшаным дахам. Быў распрацаваны праект адпаведнай рэканструкцыі будынка. Аднак ужо ў тыя гады на гэты помнік архітэктуры паклала вока адраджаная Руская праваслаўная царква ў асобе свайго Беларускага экзархата. Магчыма, блізкасць да Свята-Духава сабора ўжо тады нарадзіла смелыя задумы прыстасавання будынка для царкоўных патрэбаў. Цяпер саспелыя планы ўвасабляюцца ў рэальнасць, тым болей што сёняшняя дзяржаўная і праваслаўная ідэалогіі пасябравалі.



Месца, дзе плануецца аўтаномны комплекс праваслаўнай акадэміі

Фота Ул.ШЛАПАКА

Як стала вядома, Сінод Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы вырашыў выкарыстаць будынак як зачэпку для ўзвядзення комплексу Мінскай духоўнай акадэміі. Прэтэнзіі пастаўць у Беларусі праваслаўную царкву (маскоўскага патрыярхата) на некалькі прыступак вышэй за іншыя канфесіі сустракаюць падтрымку з боку ўладаў краіны. У гэтых адносінах цяпер атрымаць высокую згоду на з'яўленне ў палітычным цэнтры «славянскай праваслаўнай дзяржавы» духоўнай праваслаўнай акадэміі не надта цяжка. Ды, відаць, гэта і карысна для «вертыкалі», бо царква навучае, што ўсе ўлады ад Бога: добрая даецца народу за добрыя паводзіны, благая – за грахі. Але і тую, і гэтую трэба шанаваць і слухаць. Таму не дзіва, што будучая праваслаўная духоўная акадэмія атрымлівае немалы абшар у гістарычным цэнтры Мінска ад плошчы Свабоды да вуліцы Нямігі і берага Свіслачы. Пад патрэбы царкоўнай акадэміі будуць прыстасаваны акрэслены вышэй будынак, а таксама будынак па вуліцы Кірыла і Мяфодзія, 7/25. У квартале, абмежаваным вуліцамі Гандлёвай, Кірыла і Мяфодзія, Свята-Духавым саборам і Свіслачу, паўстане «аўтаномна дзеючы комплекс будынкаў духоўнай акадэміі».

Гэтае аўтаномнае ўтварэнне (значыць, недаступнае нікому, апроч навучэнцаў і духоўных асобаў) будзе мець вучэбны корпус, інтэрнат, бібліятэку, ёмістую канферэнц-залу, новы асобны храм і, зразумела, рэктарат, сталовую, дапаможныя памяшканні накшталт гаража. Вельмі проста ўявіць, які маштаб новага будаўніцтва пашанцуе ўбачыць мінчанам на пагорку паміж Свіслаччу і плошчай Свабоды. Эскізны праект комплексу, па чутках, ужо ласкава зацверджаны камітэтам па архітэктуры, горадабудаўніцтве і землеўладкаванні Мінгарвыканкама і ўзгоднены ў Камітэце па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры. Няма сумневу, што ўсе абгрунтаванні неабходнасці мець «аўтаномную» прастору напісаныя, усе дазволы атрыманыя, бо кіраўніцтва дзяржавы насуперак Канстытуцыі трактуе краіну як праваслаўную, што патрабуе атрыбутыўнага афармлення, у тым ліку і агароджаных царкоўных акадэміяў.

Ну, а зямная частка гэтага духоўнага плана? Іншымі словамі, грошы? Хто іх дасць? Царква ж праваслаўная бедная, ва ўсялякім разе, ніводная іншая канфесія не высылае на вуліцы Мінска і іншых гарадоў, у метро, у магазіны столькі жабруючых сясцёр, колькі Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы. Але з ялмужны не шмат набудуеш.

Таму частка работ будзе фінансавацца, а можа ўжо фінансуецца, Камітэтам па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры міністэрстве культуры (гэта значыць з бюджэту, за грошы падаткаплацельшчыкаў габрэяў, каталікоў, пратэстантаў, агностыкаў, мусульманаў, атэістаў – усіх, каго праваслаўная царква не надта шануе), астатняя частка выдаткаў (невядома колькі – можа 1%) будзе пакрытая з.бюджэту экзархата. Агульны кошт праваслаўнага акадэмічнага гарадка – таямніца за сямю пячаткамі.

Надта дзіўць пазіцыя ў гэтым пытанні нашага міністэрства культуры. Бесперапынна з года ў год яно жаліцца на катастрафічны недахоп грошай на рамонт тэатраў, завяршэнне будаўніцтва новага корпуса Нацыянальнага мастацкага музея, рэстаўрацыйныя работы на помніках гісторыі і культуры, непараўнальных па значнасці з узвядзеннем будынкаў ішчэ адной (няўжо не хапае Жыровіцкай) праваслаўнай вышэйшай вучэльні. А вось на ўдзел у царкоўным будаўніцтве грошы ёсць. Ці міністэрства мае загад адняць у тэатраў, музеяў, помнікаў і аддаць праваслаўнай царкве?

Адначасна да гэтага праекта стагоддзя спяшаецца далучыцца і богапаслухмяная чыноўная вертыкаль. Ужо ў райвыканкаме Цэнтральнага раёна Мінска ствараецца група падтрымкі праекта, увасаблення яго ў камяні ды іншых матэрыялах гэтым годам.

Вось такія назіраюцца духоўныя прыярытэты: Беларускую аўтакефальную царкву душаць, пратэстанцкую вінавацяць у смяротных грахах, каталіцкую вінавацяць у місіянерстве, затое Рускай праваслаўнай царкве аддаюць пад аўтаномнае валоданне лепшую частку гістарычнага ядра беларускай сталіцы.

Можа, прасцей было б паслаць студэнтаў на навуку ў вучэльні іншых праваслаўных краінаў – Грэцыю, Румынію, Чарнагорыю, Балгарыю, Расію? Ці проста ў Жыровічы.

